*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2017, № 4(14). Красавік

## Дзеці з Вялікай Кракоткі каля мясцовай школы



Ужо не памятаю, як у мой архіў трапіў гэты фотаздымак. Ён быў зроблены ў пачатку 1930-х гадоў у вёсцы Вялікая Кракотка каля мясцовай школы. У сонечны цёплы дзень невядомы нам фатограф (на адваротным баку лацінкай напісана: Wyk. fotoamator A. Z. W. Krokotka) сабраў дзяцей, каб зрабіць гэты здымак і пакінуць яго на памяць нашчадкам. Як склаўся лёс гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак? Наперадзе была жудасная вайна, якая прынесла столькі гора і слёз у беларускія хаты.

● *Сяргей Чыгрын*

## Падарожжа па Слонімшчыне восенню 1909 года



На гэты раз праваслаўны мітрапаліт Уладзімір, вікарый Гродзенскай епархіі, наведаў таямнічы храм у Сынковічах ды аглядаў старажытныя "графіці" на сценах і калонах, а таксама пахаванні. Яго спадарожнік зрабіў вельмі падрабязную справаздачу, занатаваў надпісы і даты. Згаданыя "графіці" наноў былі адкрытыя ў 2013 годзе.

*Чытайце на ст. 15-19.*

# Згадка з гісторыі слонімскай пошты

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства паштовай сувязі “Белпошта” ў 2010 годзе выпусціла накладам 100 тысяч асобнікаў паштовы канверт, прысвечаны гісторыі беларускай пошты. На ім адлюстраваны будынак старой пошты ў Слоніме, якая была пабудавана з цэглы ў пачатку XX стагоддзя. На канверце таксама размешчана шыльда, якую вывешвалі на слонімскай паштовай станцыі ў канцы XVIII ст.

Стары будынак пошты ў Слоніме захаваўся да нашых дзён і знаходзіцца ён на вуліцы Маякоўскага. Стаіць на насыпным плато і ўдала ўпісаны ў рэльеф берагавога схілу канала Агінскага. Арганічна ён ўвязаны і з сучасным шматпавярховым будынкам галоўпаштамта.

Слонімская пошта мае даўнія традыцыі. У музеі пошты і тэлекамунікацый у Вроцлаве ў Польшчы захоўваецца пячатка слонімскай пошты часоў Міхала Казіміра Агінскага. Тады слонімскім паштмайстрам быў нехта І. Чахоўскі. Там захоўваецца і слонімская паштовая карэта.

● ***Сяргей Чыгрын***




*Канверт са слонімскай поштай, 2010 г.*




*Галоўная пошта Слоніма, 1930-я гады. Паштоўка.*

# Мост на Шчары, 1916 год

Падчас Першай сусветнай вайны нямецкія вайскоўцы выдавалі паштоўкі з фота і малюнкамі Слоніма. Колькі іх выйшла, дакладна невядома. Паштоўкі гэтыя ў наш час рэгулярна з’яўляюцца на інтэрнэт-аукцыёнах. У гэтым нумары змяшчаем паштоўку з малюнкам аднаго з мастоў на Шчары (яна з’явілася на сайце ebay.de). Выдадзена яна была ў пачатку 1916 года. Надпісы на ёй выкананыя на дзвюх мовах — нямецкай і польскай.



# Пра зацверджанне герба Слоніма ў 1938 годзе



*Такі герб быў каля лагатыпа “Слонімскага тыднёвіка”, які выдаваўся ў нашым горадзе ў 1937 годзе*

Слонім мае свой герб ужо больш за чатыры стагоддзі. Атрыманы ён быў ад караля і вялікага князя Жыгімонта III Вазы, які 4 студзеня 1591 года пацвердзіў гораду магдэбургскае права. Слоніму часта не шанцуе з гістарычнымі памяткамі, многія з якіх альбо не захаваліся, альбо былі вывезеныя ў архівы і музеі розных краін свету. Вось і прывілей 1591 года захоўваецца ў Пецярбургу (яшчэ нядаўна некаторыя слонімскія даследчыкі памылкова сцвярджалі, што ён не захаваўся). На жаль, вільгаць моцна пашкодзіла малюнак герба на пергаміне і ён “амаль знік”.[1]

У часы панавання расійскіх уладаў герб Слоніма неаднаразова змяняўся. У сваім цяперашнім выглядзе ён быў афіцыйна зацверджаны ўжо ў незалежнай Беларусі — у 1998 годзе. Здавалася, што гісторыя герба нашага горада добра вывучана, асветлена ў шматлікіх публікацыях. Аднак высветлілася, што застаюцца яшчэ “белыя плямы”. Напрыклад, зацверджанне герба польскімі ўладамі ў 1938 годзе.

21 сакавіка 1938 года з’явіўся ўказ міністра ўнутраных спраў Польшчы № 131 “у справе зацверджання герба горада Слоніма”. У ім падавалася наступнае апісанне герба: “На блакітным полі павернуты ўправа залаты леў трымае ў правай лапе срэбраную з падвойным крыжам стралу, вастрыём накіраваную ўверх”. Паводле дакумента, адзін асобнік зацверджанага герба мусіў захоўвацца гарадскім саветам Слоніма, іншы — Міністэрствам унутраных спраў.[2]

**Zarządzenia Władz Naczelnych**



**131.**

**ZARZĄDZENIE**
**MINISTRA SPRAW WEWNĘTRZNYCH**
**z dnia 21 marca 1938 r.**
**w sprawie zatwierdzenia herbu miasta Słonima.**

Na podstawie art. 4 ust. 3 rozporządzenia Prezydenta Rzeczypospolitej z dnia 13 grudnia 1927 r. o godłach i barwach państwowych oraz o oznakach, chorągwiach i pieczęciach (Dz. U. R. P. Nr 115, poz. 980) w brzmieniu rozporządzenia Prezydenta Rzeczypospolitej z dnia 24 listopada 1930 r. (Dz. U. R. P. Nr 80, poz. 629), — po porozumieniu się z Ministrem Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego zatwierdzam herb miasta Słonima w następującej postaci:

W polu błękitnym wspięty w prawo lew złoty trzyma w prawej łapie strzałę srebrną dwukrotnie przekrzyżowaną, żeleźcem do góry.

Jeden wizerunek zatwierdzonego herbu pozostaje w przechowaniu Zarządu Miejskiego miasta Słonima, drugi identyczny — w przechowaniu Ministerstwa Spraw Wewnętrznych.

Za Ministra Spraw Wewnętrznych:
(—) *Wł. Korsak*,
Podsekretarz Stanu.

Такім чынам, да верасня 1939 года, да змены польскай улады на савецкую, у Слоніма быў афіцыйна зацверджаны герб. Магчыма, каля лагатыпа “Слонімскага тыднёвіка” знаходзіўся якраз гэты яго варыянт (праўда, карона ў змешчаным вышэй апісанні не згадваецца). А ён, дарэчы, найбольш нагадвае выяву льва са стралой на гарадской пячатцы, змешчанай у кнізе польскага гісторыка М. Баліньскага.[3]

Цікава, што яшчэ 27 сакавіка 1933 года слонімскі павятовы сеймік на сваім пасяджэнні вырашыў звярнуцца ў Міністэрства ўнутраных спраў, каб атрымаць прызнанне для павету “слонімскага герба, які ўяўляе сабой Пагоню, злучаную з гербам Сапегаў”. Нібыта, у 1730 годзе, “як герб павету ўжывалася Пагоня разам з гербам правячага старосты слонімскага”.[4] Ці быў гэты зварот афіцыйна аформлены і які быў вынік, пакуль невядома.

● ***Сяргей Ёрш***

*[1] Цітоў А. Геральдыка беларускіх местаў (XVI — пачатак XX ст.). — Мінск: “Полымя”, 1998. С. 76.*

*[2] Monitor Polski, 1938, № 89, 19 красавіка. С. 1.*

*[3]Гл. наступную публікацыю: Герасімчык В. Пячаткі Слоніма // Слонімскі край, 2016, № 2. Сакавік. С. 4.*

*[4] Kurjer Nowogródzki, 1933, № 90, 1 красавіка.*

# Слонімскія фатографы пачатку ХХ стагоддзя

У 1900-1930-я гады Слонім мог ганарыцца сваімі фатографамі, якія тут жылі і працавалі. Гэта дзякуючы ім нам засталіся ў спадчыну здымкі і паштоўкі Слоніма пачатку ХХ стагоддзя. Тады ў горадзе свае фотамайстэрні мелі фатографы Б. Вайнштэйн, Б. Натковіч, Г. Браўн, С. Муркес, Т. Носек-Лейба, Я. Салавейчык, Х. Закройскі, О. Дзярэчынскі, Ю. Шыманчык. За выключэннем Юзафа Шыманчыка, усе яны былі па нацыянальнасці яўрэі.

Вайскоўцаў 79-га і 80-га польскіх пяхотных палкоў, якія дыслацыраваліся ў Слоніме ў 1920-я-1930-я гады, у асноўным фатаграфавалі Барыс Вайнштэйн і Берка Натковіч. У той час гэта былі найбольш папулярныя фатографы ў Слоніме. Іх, а таксама іншых фатографаў, майстэрні знаходзіліся амаль у цэнтры горада. Напрыклад, фотамайстэрня Вайнштэйна была на вуліцы Панятоўскага, 8 (цяпер гэта вуліца Пушкіна). Фотамайстэрня С. Муркеса месцілася на вуліцы Сянкевіча, 44 (цяпер гэта Першамайская вуліца) і на Гандлёвай, 25. О. Дзярэчынскі сваю фотамайстэрню трымаў на 2-й Берагавой вуліцы, 6 і г. д.







Напачатку ХХ стагоддзя ў Слоніме часта бываў з фотаапаратам знакаміты фатограф Ян Булгак (1876 — 1950), якога ў Польшчы называюць бацькам польскай фатаграфіі, у Літве — заснавальнікам літоўскай школы фатографаў, у Беларусі — майстрам краязнаўчага фота. Булгак быў чалавекам шматлікіх талентаў — этнографам, фалькларыстам, пісьменнікам.

У 1933 годзе Слонім наведаў амерыканскі фатограф Раман Вішняк, які зрабіў і захаваў для нашчадкаў шмат здымкаў тагачаснага Слоніма.

Цікава і тое, што перад Другой сусветнай вайной мелі фотаапараты і любілі ў Слоніме фатаграфаваць людзей і горад над Шчарай беларускія паэты Гальяш Леўчык (Ляўковіч) і Сяргей Новік-Пяюн, якія тады тут жылі. Фатаграфаваў ваколіцы Слоніма і заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея Язэп Стаброўскі.

Шмат нам у спадчыну пакінуў здымкаў Слоніма 1930-х-1940-х гадоў Юзаф Шыманчык. Родам ён быў з Косава, але часта наведваў наш горад, а падчас вайны меў у горадзе сваю фоталабараторыю, якая ў канцы вайны падчас бамбёжкі была знішчана.

Юзафа Шыманчыка часта клікалі на вяселлі, каб на памяць зрабіць і захаваць здымак. Яго працы друкаваліся ў розных польскіх і беларускіх выданнях, а таксама ў нямецкіх падчас акупацыі. Пра гэтага чалавека мы яшчэ раскажам на старонках "Слонімскага краю".



Як склаўся лёс слонімскіх фатографаў Вайнштэйна, Натковіча, Браўна, Муркеса, Носек-Лейбы, Салавейчыка, Закройскага, Дзярэчынскага? Найхутчэй трагічна. Інфармацыі пра лёс гэтых людзей мала, таму спадзяемся на дапамогу нашых чытачоў. Цікавыя і новыя дадзеныя пра згаданых слонімскіх фатографаў будуць апублікаваны на старонках нашага выдання.

Прапаную чытачам "СК" некалькі графічных знакаў, эмблемаў і фотаздымкаў слонімскіх фатографаў пачатку ХХ стагоддзя.

● ***Сяргей Чыгрын***

КНІГІ ПРА СЛОНІМ

# Экскурсія ў мінулае

Гэтая невялікая кніга была выдадзена вялікім накладам — 25 тысяч асобнікаў. Многія слонімцы набылі яе ў свае хатнія бібліятэкі, даведаліся з яе пра гісторыю свайго горада. На жаль, інфармацыя аўтарамі падавалася своеасаблівa, пісалі больш пра змаганне сялян і рабочых за свае правы супраць "прыгнятальнікаў", чым пра жыццё нашых продкаў. У кнізе толькі ў гэтым кантэксце згадваюцца старосты Леў Сапега і Міхал Казімір Агінскі, а пра іх вялікія заслугі перад горадам — ні слова. Але ў савецкія часы інакш пра "эксплуататараў" не пісалі. Таму чытачы нічога не даведаліся ні пра герб Слоніма, ні пра оперны тэатр. Праўда, у 1983-м выйшла кніга іншых аўтараў пад назвай "Помнікі Слоніма", у якой гэтая інфармацыя ўжо была і на роднай мове.

Шмат увагі ў кнізе Міхаіла Рылко і Ірыны Шпырковай надаецца слонімцам-удзельнікам бальшавіцкага перавароту ў Петраградзе ў 1917 годзе, нядоўгай дзейнасці рэўкома ў нашым горадзе. У той жа час амаль няма інфармацыі пра жыццё слонімцаў пад нямецкай акупацыяй. Міжваенны час у кнізе адлюстраваны практычна толькі асвятленнем барацьбы з польскай акупацыяй. Нібыта, акрамя гэтага змагання не было нічога вартага ўвагі ў жыцці Слонімшчыны. Пішучы пра "першых саветаў" (1939-1941 гг.), аўтары не маглі згадаць пра рэпрэсіі, якія праводзілі савецкія ўлады. Праўда пра іх пачала прарывацца на старонкі друку толькі ў канцы 1980-х.




***Рылко М., Шпыркова И. Слоним: Историко-экономический очерк. — Минск: Беларусь, 1981. — 80 с.***

У кнізе нямала напісана пра падпольны і партызанскі рух падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гадоў, пералічваюцца найбольш вядомыя асобы: і тыя, што загінулі, і тыя, што адбудоўвалі пасля вызвалення Слонімшчыну. Падрабязна асвятляецца стан прамысловасці ў Слоніме на час напісання кнігі. Цяпер цікава пачытаць, якія ж прадпрыемствы працавалі. І не проста працавалі, а развіваліся, будавалі новыя цэхі. Некаторых прадпрыемстваў даўно ўжо няма...

Увогуле ў кнізе нямала цікавай інфармацыі пра тагачаснае жыццё, што дае магчымасць здзейсніць "экскурсію ў мінулае". Напрыклад, пра тое, што жыхары Слоніма валодалі 5 тысячамі матацыклаў і 1000 легкавых аўтамабіляў. За апошнія дзесяцігоддзі сітуацыя істотна змянілася.

Напрыканцы аўтары пішуць пра генплан забудовы нашага горада да 2000 года. Не ўсе планы былі рэалізаваныя. Напрыклад, у раёне Брэсцкай вуліцы так і не пабудавалі кінатэатр на 800 месцаў. Сярэдняя школа № 1 (цяперашні ліцэй) не стала "Домам піянераў і школьнікаў".

● ***Сяргей Ёрш***

# Слонім на лонданскіх картах канца XVIII стагоддзя




*На карце Томаса Кітчына, якая была выдадзена ў 1787 годзе ў Лондане, Слонім знаходзіцца на правабярэжжы.*

“СК” ужо змяшчаў карту Герарда Меркатара 1595 года, на якой Слонім знаходзіцца на правым, а не на левым беразе Шчары.* А як вядома, існуе версія, што першы замак існаваў на правабярэжжы, на левабярэжжы ён быў пабудаваны толькі ў XVI стагоддзі. Знайшліся яшчэ некалькі картаў, на якіх наш горад таксама змешчаны на правым беразе. Яны былі выдадзены ў Лондане. Гэта карта Томаса Кітчына, якую надрукавалі ў 1787 годзе і карта Уільяма Фадэна, яна з’явілася ў 1791-м. Можна меркаваць, што складальнікі карысталіся нейкай старажытнай картай (магчыма, што якраз працай Меркатара), з якой і перанеслі на свае варыянты размяшчэнне цэнтра Слоніма. Аднак на той час існавала ўжо дастаткова шмат картаў XVII-XVIII стагоддзяў, на якіх наш горад знаходзіўся на левабярэжжы Шчары. Таму не дзіўна, што Аарон Эроўсміт, які выдаў сваю карту Еўропы ў 1796 годзе ў тым жа Лондане, карыстаўся больш актуальнымі крыніцамі.

**СЁ**

*Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С. 8.




*На карце Уільяма Фадэна, якую выдалі ў 1791 годзе ў Лондане, Слонім таксама размешчаны на правым беразе Шчары.*

*На карце Аарона Эроўсміта, якая была выдадзена ў 1796 годзе ў тым жа Лондане, Слонім размешчаны ўжо на левым беразе.*

ЗЕМЛЯКІ

# Лёс святара і настаўніка

Пра былога настаўніка і праваслаўнага святара Іосіфа Ракевіча мне аднойчы нагадаў былы настаўнік са Слоніма Мікалай Ракевіч. Мікалай Іванавіч прасіў, каб напісаў пра яго добрае слоўка, бо "Іосіф Ракевіч гэтага заслужыў". Параіў звярнуцца да яго дачкі Зоі Іосіфаўны Казук, якая жыве ў Слоніме.

Паслухаўшы прапанову старэйшага слонімца, я пачаў пошукі. Спачатку звярнуўся да Людмілы Антонаўны Клімовіч, роднай сястры нашага знакамітага земляка прафесара Алега Лойкі. Людміла Антонаўна некалі вучылася ў адным класе з Зояй Іосіфаўнай. Але Людміла Клімовіч мяне не вельмі парадавала. З яе слоў я даведаўся, што Зоя Казук, дачка Іосіфа Ракевіча, зусім нічога не бачыць, яна страціла зрок...

Тым не менш, матэрыял (хоць і няпоўны) удалося сабраць. З яго вынікае, што Іосіф Ракевіч, сын Венядзікта, нарадзіўся 7 лістапада 1885 года ў вёсцы Угрынь (цяпер гэта Зэльвенскі раён) у даволі вялікай сям'і. Бацька Іосіфа быў прымаком, родам з-пад Азярніцы. Вельмі любіў зямлю і працу на ёй. Таму і сын таксама меў стараннасць да працы і вучобы. Ён скончыў настаўніцкую семінарыю ў Дзятлаве і быў накіраваны ў вёску Глоўсевічы, дзе працаваў настаўнікам у 1905 годзе. Пасля служыў у рускім войску. Падчас Першай сусветнай вайны Іосіф Ракевіч знаходзіўся ў бежанстве ў Саратаўскай вобласці Расіі. Там ён уладкаваўся на працу настаўнікам.

Калі сям'я Ракевічаў вярнулася на Бацькаўшчыну, Слонімскі павет быў пад уладай Польшчы. Іосіф Ракевіч пачаў працаваць рэгентам Галынкаўскай царквы, пасля быў псаломшчыкам, пэўны час вучыўся на святара. Да гэтага часу ён ужо ажаніўся, меў сваю хату ў Галынцы і дваіх дзяцей.



*Іосіф Ракевіч з сям'ёй, 1970-я гады.*

Калі прыйшлі "першыя саветы", Ракевіч зноў пачаў працаваць настаўнікам. Жыў ён добра, меў вялікую гаспадарку, таму да пачатку Другой сусветнай вайны за ім сачылі органы НКУС і хацелі ўсю сям'ю вывесці ў Сібір. Але яго ратавалі сябры. Ён стараўся дома не быць, пастаянна змяняў месца свайго жыхарства. Жонка з дзецьмі жыла ў Галынцы, а потым яны пераехалі да мужа і бацькі ў Слонім. Толькі ў 1940 годзе Іосіф Ракевіч і яго сям'я ў памянялі ў Слоніме 12 кватэр. А калі пачалася вайна, то іх ніхто не чапаў, а сам гаспадар працаваў настаўнікам у пачатковай школе.

У 1966 годзе Ракевічы пабудавалі свой уласны дом на завулку Уз'яднання ў Слоніме, бо дом у Галынцы падчас вайны згарэў. У Слоніме і аселі назаўсёды. Іосіф Венядзіктавіч выкладаў у школах спевы, вёў хор, працаваў таксама ў школах у вёсках Разанаўшчына, Харашэвічы, Горка. Ён меў прыгожы барытон, умеў іграць на скрыпцы і гітары. Яму паранейшаму не давалі спакойна жыць, асабліва папракалі, што ён служыў у царкве. Былы загадчык Слонімскага раённага аддзела народнай адукацыі Цепін, які працаваў на гэтай пасадзе пасля 1944 года, часта здзекваўся з настаўніка Ракевіча за тое, што ён да 1939-га быў дыяканам у царкве. Чыноўнік не раз сустракаў яго словамі: "Зноў алілуя, алілуя, пакі, пакі, памолімся".

Слонімец Мікалай Ракевіч прыгадвае, што яму "пашчасціла некалькі гадоў працаваць разам з дачкою Іосіфа Ракевіча Зояй Іосіфаўнай і прысутнічаць на пахаванні яе бацькі дзесьці ў 1975 ці 1976 годзе". Зоя Іосіфаўна Ракевіч (па мужу Казук) выкладала ў школе родную мову і літаратуру.

● *Сяргей Чыгрын*

# Слонімшчына на старонках газеты НКУС БССР “На варце Кастрычніка” 1939-1940 гадоў

Газета беларускай міліцыі “На страже” ў савецкія часы спачатку мела назву “На варце Кастрычніка”. Перад пачаткам вайны СССР і Германіі гэта быў орган палітаддзела ўпраўлення рабоча-сялянскай міліцыі НКУС БССР. У склад НКУС уваходзілі Галоўнае ўпраўленне рабоча-сялянскай міліцыі і Галоўнае ўпраўленне дзяржаўнай бяспекі, якое мела непасрэднае дачыненне да рэпрэсій. У лютым 1941 года НКУС быў падзелены на дзве самастойныя структуры: НКУС і НКДБ.

У Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу захаваліся няпоўныя камплекты даваеннай “На страже”. У гэтых нумарах ёсць публікацыі, у якіх згадваецца Слонім.

19 верасня 1939 года была апублікавана аператыўная зводка генштабу Чырвонай Арміі, у якой згадваецца захоп 18 верасня Слоніма. 28 верасня газета друкуе карту Польшчы, падзеленую дэмаркацыйнай лініяй паміж нямецкімі і савецкімі войскамі. Яна праходзіць праз Варшаву! На карце ёсць і наш горад.


Пролетары ўсіх краін, еднайцеся!

НА ВАРЦЕ КАСТРЫЧНІКА

16 снежня 1939 года № 54 (256) | ОРГАН ПАЛІТАДДЗЕЛА УПРАЎЛЕННЯ РСМ НКВД БССР | Цана 5 кап.




26 кастрычніка 1939 года на першай старонцы газеты было змешчана фота ўдзельнікаў галасання ў Слоніме на выбарах дэпутатаў у Народны сход Заходняй Беларусі. На выбарчым участку на фоне партрэта Сталіна пазіруюць з бюлетэнямі ў руках (злева направа) Альфонс і Вітолій Венглінскія (сын і бацька, палякі), Рохля Вышэўская (яўрэйка, 18 гадоў), Канстанцін Сончык і Ганна Саванец (беларусы).

У ліпені 1940 года з’явілася зацемка выконваючага абавязкі начальніка Слонімскага раённага аддзела рабоча-сялянскай міліцыі сяржанта Нехарошава.* Ён распавёў пра чарговую пазыку савецкага ўраду. У міліцыі адбыўся мітынг, на якім усе прысутныя аднагалосна падпісаліся на пазыку “на месячны аклад заработнай платы”. За гадзіну супрацоўнікі аддзела падпісаліся на агульную суму 21850 рублёў. Да іх месячнага заробку гэта склала 107,5%!

“Передавікамі па падпісцы з’яўляюцца: упаўнаважаныя тт. Герасімчык, Татарын, якіх зарплата 350 руб., падпісаліся на 500 рублёў, міліцыянер т. Галавач падпісаўся на 300 рублёў, справавод т. Герасімчык Надзея

— на 300 рублёў, упаўнаважаны сельскай мясцовасці тав. Харытончык падпісаўся на 360 руб.”.

Упаўнаважаны Герасімчык — гэта будучы савецкі партызанскі камандзір Пракоп Герасімчык.

Чым займалася міліцыя ў той час? Барацьбой з крыміналам, патруляваннем населеных пунктаў, выдавала пашпарты, рабіла прапіску, кантралявала пашпартны рэжым, займалася ўлікам ваеннаабавязаных, вяла барацьбу з крадзяжамі “сацыялістычнай уласнасці”, прафілактыкай і папярэджаннем правапарушэнняў сярод падлеткаў, барацьбой з п’янствам, з хуліганствам. Міліцыя прымала ўдзел і ў рэпрэсіях.

Калі ў кастрычніку 1939 года ў Слоніме налічвалася 2 тысячы ўцекачоў у акупаванай немцамі Польшчы, дык у ліпені 1940-га — ужо 12 тысяч. Большасць з іх складалі яўрэі. Многія не мелі працы і нармальных умоваў жыцця.

У канцы ліпеня 1940 года начальнік слонімскага гарадскога аддзела НКУС Талмачоў прапанаваў начальніку ўпраўлення НКУС па Баранавіцкай вобласці арыштаваць усіх беспрацоўных-адзіночак, а сямейных адправіць у аддаленыя вобласці СССР у спецвысылку. Такія дэпартацыі адбыліся і колькасць уцекачоў у Слоніме істотна знізілася.** Праводзіліся таксама арышты і дэпартацыі мясцовых жыхароў.

● ***Сяргей Ёрш***

**Нехорошев. Организованно подписались на заем // На варце Кастрычніка, 1940, № 23(281), 20 ліпеня.*

***Слоним — карта историко-культурного наследия // http://shtetlroutes.eu/ru/slonim-cultural-heritage-card/*





***Слонімскі міліцыянер Пракоп Герасімчык, 1940 г.***

# Слонімскія выданні пачатку XX стагоддзя ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы

Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў слонімскіх друкарнях выйшла каля трох дзясяткаў невялікіх кніг і брашур на рускай мове. Ці захаваўся хоць адзін асобнік у Слоніме, дакладна невядома. У раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа такіх выданняў, на жаль, няма. Але яны ёсць у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Пецярбурзе. Мы падрыхтавалі спіс гэтых рэдкіх выданняў.

*"Устав Слонимского общества сельского хозяйства: [Утв. 19 июля 1907 г.]. — Слоним, 1910"*. Брашура налічвала 20 старонак. *"Отчет Слонимского общества сельского хозяйства.... — Слоним, 1909-1914"*. Гэта 5 невялікіх брашурак (ад 5 да 17 старонак), у кожнай з іх была справаздача пра дзейнасць таварыства за мінулы год. У бібліятэцы няма выдання за 1912 год.

*"Устав Общества взаимного кредита слонимских землевладельцев: [Утв. 30 марта 1910 г.]. — Слоним, 1910"*. Выданне налічвала 43 старонкі. Вядома пра яшчэ два выданні гэтай арганізацыі: *"Отчет Общества взаимного кредита Слонимских землевладельцев...."*. Справаздача за 1910-1911 год выйшла ў Слоніме ў 1912 годзе, а за 1913-ы — у 1914 годзе. Яны мелі 18 і 24 старонкі адпаведна.

Падобных справаздачаў у той час выходзіла даволі шмат. *"Отчет о деятельности Общества вспомоществования бедным учащимся г. Слонима..../за 1911 год/ — Слоним, 1912. — 9 с."*. *"Отчет лотереи-аллегри, устроенной Слонимским благотворительным обществом октября 10 дня 1910 года. — Слоним, 1910"*. Брашура мела 8 старонак. *"Отчет Слонимского*



flickr.com

*пожарного общества... / Действ. чл. Росс. пожарного о-ва. — Слоним, 1911"*. Гэта справаздача за 1910 год. У брашуры было 23 старонкі. *"Отчет Попечительства при Обществе пособия бедным евреям гор. Слонима по снабжению топливом бедных евреев гор. Слонима..." (Слоним, 1909-1911)*. Вядома пра тры асобныя выданні справаздач за 1908-1909, 1910 і 1911 гады. *"Отчет Слонимской еврейской больницы и состоящей при ней богадельни /за 1913 г./* — Слоним, 1914". У брашуры 24 старонкі.

Таксама часта друкаваліся і статуты арганізацый. Згадаем яшчэ некалькі такіх выданняў. *"Устав благотворительного общества под названием «Талмуд-тора» (законоучение) в г. Слониме. — Слоним, 1915"*. Статут гэтай яўрэйскай арганізацыі быў надрукаваны на 16 старонках. *"Устав Общей Больничной кассы при фабриках и заводах г. Слонима. — Слоним, 1914. — 46 с."*. *"Устав Общества потребителей чинов акцизного надзора 3-го округа Гродненского акцизного управления и служащих по казенной продаже питей: [Утв. 30 сент. 1911 г.]. — Слоним, 1911. — 29 с."*.

Іван Іванавіч Гаптарэўскі на 5-я ўгодкі існавання таварыства распаўсюду асветы паміж жыхарамі горада Слоніма і павета выдаў асобнай брашурай свой даклад: *"Гоптаревский И.И., Доклад председателя Общества распространения просвещения Гоптаревского 12 июля 1912 г. / [И. Гоптаревский]. — Слоним, 1912. — 27 с."*. Ёсць яшчэ адно рэдкае выданне, якое выйшла ў Слоніме: *"Фохт А. С. Синхронистическая таблица по древней истории: Для учащихся муж. и жен. учеб. заведений. — Слоним: паровая тип. Шумаха, [1909]"*. Налічвала яно толькі 8 старонак. Пра аўтара, Аляксандра Сямёнавіча Фохта, інфармацыі няма. Верагодна, ён быў настаўнікам.

Друкаваліся ў нашым горадзе і выданні з суседніх гарадкоў, напрыклад з Дзятлава: *"Правила образующегося при Дятловском ссудо-сберегательном товариществе на основании § 30 Устава Т-ва, страхового фонда для выдачи после смерти его участников пособий их семьям*

*или лицам, находившимся на их попечении: Утв. ... 1-го марта 1914 г. — Слоним, [1915]. — 7 с.".*

Яшчэ раней была надрукаваная брашура арганізацыі з Ружанаў: *"Отчет Ружанского ссудосберегательного товарищества за 1911 год. — Слоним, 1912. — 14 с."*. Дарэчы, такая ж арганізацыя была і ў Слоніме. У 1910, 1911 і 1912 гадах яна выдала асобнымі брашурамі справаздачы за папярэднія гады. А ў 1915-м, ужо падчас вайны, выйшаў яе статут: *"Устав Слонимского ссудо-сберегательного товарищества: Утв. ...24 окт. 1907 г. — Слоним, [1915]. — 36 с."*.

Ці не апошнім выданнем пад царскай рускай уладай у Слоніме быў буклет на 4 старонках, які адначасова друкаваўся ў Брэст-Літоўску і ў Мінску: *"Караффа-Корбут К.В., ...Краткое руководство практической дезинфекции в условиях военного времени / Прив.-доц. К.В. Караффа-Корбутт, врач для поруч. при нач. Сан. части армий Сев.-зап. фронта. — Брест-Литовск; Слоним; Минск, [1915]"*.

А магчыма, што апошнім выданнем стала кніга, друк якой слонімцу Ельяну замовілі аж з далёкага расійскага горада Арэнбурга: *"Перепись слепых Оренбургской губ. и Тургайской обл., произведенная Оренбургско-Тургайским отделением Попечительства императрицы Марии Александровны о слепых в 1913 году. — Слоним: тип. Ельяна, 1915"*. Яна налічвала 63 старонкі.

***СЁ***

*РЭДКІЯ ВЫДАННІ*

# У выданні 1905 года — пра населеныя пункты Слонімшчыны



УКАЗАТЕЛЬ
НАСЕЛЕННЫМЪ МѢСТНОСТЯМЪ
Гродненской губерніи,
съ относящимися къ нимъ необходимыми свѣдѣніями.

Изданіе Гродненскаго Губернскаго Статистическаго Комитета.

ГРОДНА.
Губернская Типографія.
1905 г.

***Указатель населенным местностям Гродненской губернии, с относящимися к ним необходимыми сведениями. — Гродна: Губ. тип., 1905. — 180 с.***

У 1905 годзе Гродзенскі губернскі статыстычны камітэт выдаў кнігу, прысвечаную населеным пунктам. Інфармацыя пра Слонімскі павет (уезд) займае 29 старонак. У спісе шмат вёсак і мястэчак, якія цяпер уваходзяць у склад суседніх раёнаў — Дзятлаўскага, Зэльвенскага, Баранавіцкага, Івацэвіцкага. Нам жа найперш цікавыя звесткі пра населеныя пункты, якія ўваходзяць у цяперашні Слонімскі раён. Інфармацыі пра іх на жаль падаецца няшмат.

У Слоніме на момант падрыхтоўкі да друку кнігі было 20130 жыхароў. У Альбярціне жылі 2000 чалавек. Тады гэта быў пасёлак у Шылавіцкай воласці, яго афіцыйная назва гучала так: Аляксандрава-Альбярцін.

Цікава, што вёска Рышчыцы (цяперашні мікрараён горада) ў той час называлася "Грышчыцы", яна ўваходзіла ў Чамярскую воласць. У ёй налічвалася 35 жыхароў. А ў аднайменным маёнтку жылі 12 чалавек. Далей за Рышчыцамі ў накірунку Жыровічаў быў фальварак Бакуновічы, у якім было 40 чалавек. Побач на Шчары была плаціна "Бакуновічы", каля яе жылі 12 чалавек.

У Жыровічах налічвалася 445 чалавек, у вёсцы Залессе амаль столькі ж — 426, у маёнтку Жыровічы-Старыя — 134. У фальварку Прусоўшчына каля Жыровічаў налічылі 13 жыхароў. Падаем звесткі яшчэ пра шэраг слонімскіх вёсак: Глоўсевічы — 926, Мыслава — 691, Вялікая Кракотка — 627, Малая Кракотка — 317, Нагуевічы — 552, Вострава — 541, Пасінічы — 640, Піронім — 517, Рахавічы — 353, Рудаўка — 426, Сялявічы — 601, Сценявічы — 318, Хадзявічы — 649, Азярніца — 590, Чамяры — 800...

Цяпер цяжка паверыць, што ў Савічах, у якіх засталося пару дзясяткаў жыхароў, на 1905 год жылі 616 чалавек. У суседнім Чапялёве было яшчэ больш — 909, а ў Шылавічах — больш за 1300 чалавек (у Шылавічах Вялікіх — 591, у Шылавічах Малых — 658, у маёнтку Шылавічы — 97).

Кніга, падрыхтаваная Гродзенскім губернскім статыстычным камітэтам — каштоўнае выданне для краязнаўцаў. Некаторыя з населеных пунктаў, якія ў ёй згадваюцца, ужо не існуюць, альбо змянілі назвы.

● ***Сяргей Ёрш***

# Пра слонімскага гандляра Якуба Якубовіча

Яшчэ ў царскія часы была апублікаваная брэсцкая Мытная кніга за студзень-травень 1583 года. У ёй фіксаваліся ацэнка тавараў, якія правозілі праз Брэст, прозвішчы асоб, іх гарады, а таксама памер пошлінаў, якія на тавар накладаліся. З запісаў у кнізе відаць, што ў Польшчу ехалі гандляры з Вільні, Менска, Наваградка, Магілёва, Пінска, Кобрына, Пружанаў, Слуцка. Некаторыя ліцьвіны такія паездкі рабілі рэгулярна.

На жаль, у Мытнай кнізе зафіксаваны праезд толькі аднаго слонімца. Гэта быў яўрэй Якуб Якубовіч. 11 лютага 1583 года ён вёз на возе ў Люблін свой тавар — 193 “казліны” (казіныя шкуры, з іх выраблялі абутак ці адзенне). Пошліна склала 2,5 капы.* За гэтыя грошы можна было купіць дзве каровы.



У той час у Люблін, Гданьск ці Познань везлі на продаж шкуры, скураныя вырабы (хамуты, абутак і г. д.), воск, збожжа, сала. З Гданьска ці з Торуня везлі селядцы ў бочках, з Ломжы ці з Торуня — “пресны мёд”, з Любліна — вырабы з жалеза, тую ж зброю (папулярнасцю карысталіся венгерскія нажы), сукно, адзенне (у тым ліку і турэцкае), паперу, перац, “насенне цыбульнае”, розныя “дробныя крамныя рэчы” і шмат чаго іншага.

● ***Генадзь Гурскі***

**Археографический сборник документов, относящихся к истории Северозападной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Том 3. — Вильна, 1867. С. 291.*

# Дакумент са старога гарышча

Нядаўна на адным з гарышчаў старога дома ў Слоніме знайшоў вось такі дакумент на польскай мове. Для слонімцаў ён найперш цікавы тым, што быў надрукаваны ў 1926 годзе ў слонімскай друкарні Гурвіча. Гэты дакумент называецца “Кніжка аплаты”. Яе мелі пры Польшчы ўсе жыхары Слонімскага павета. І па ёй плацілі падатак. Кніжка складалася з чатырох раздзелаў: даты, раздзел падаткаў, сума і атрыманне. У раздзеле “Атрыманне” ставіўся подпіс і пячатка, што падатак гаспадар заплаціў. На адной са старонак нават стаяць пячаткі староства Слонімскага і гміны Старавесь. Цяпер гэта Зэльвенскі раён.

● ***Сяргей Чыгрын***



Powiat Słonimski.
Gmina ..........
wieś ..........
№ ..........

**Książka płatnicza**

Nazwisko ..........
Imię Michał

Druk. Gurwicza w Słonimie.



| SUMA | | POKWITOWANIE |
|---|---|---|
| Zł. | gr. | |

# Падарожжа па Слонімшчыне восенню 1909 года

*Працяг, пачатак у № 3(13).*

“СК” працягвае змяшчаць нарыс пра падарожжа па Слонімшчыне праваслаўнага мітрапаліта Уладзіміра, вікарыя Гродзенскай епархіі. Наступная частка была надрукавана ў рускамоўнай газеце “Гродзенскія епархіяльныя ведамасці” ў тым жа снежні 1909-га.* У ёй гаворка ідзе пераважна пра вёскі на ўсходзе цяперашняга Зэльвенскага раёна (раней — Слонімскі павет). Найбольш падрабязна — пра наведванне таямнічага Сынковіцкага храма.

У снежні 1909 года ў гэтым выданні друкаваўся нарыс**, у якім адзначалася, што храм у Сынковічах мог быць пабудаваны ў XII стагоддзі, ці нават у XI ст. Згадваліся пошукі, якія праводзіў святар Яўстафій Міхайлоўскі, які падчас рамонту ў 1881 годзе адкрыў на сценах і калонах больш за чатыры дзясяткі старажытных надпісаў, але многія былі пашкоджаныя, іх немагчыма было прачытаць. Самая старажытная дата — 1128 год. Але не выключалася, што надпісы былі зроблены ў пазнейшы час. Частка гэтых надпісаў была наноў адкрытая летам 2013 года, калі пад кіраўніцтвам мастака Алеся Пушкіна расчышчаліся сцэны “ад алейнай зафарбоўкі 1990 г.”.***

У тэксце, які змяшчаецца ў гэтым нумары “СК”, ёсць нямала фактаў, якія не згадваюцца ў іншых публікацыях. Сапраўды, “графіці” з датамі яшчэ не доказ значна большай старажытнасці Сынковіцкай царквы, чым прынята лічыць. Аднак і ігнараваць іх нельга. Калі б удалося даказаць, што храму (магчыма, першапачаткова замку) насамрэч каля 900 гадоў, давялося б пераасэнсаваць старажытную гісторыю Слонімшчыны.

● ***Генадзь Гурскі***


Гродненскія Епархіальныя Вѣдомости.
Выходятъ по воскресеньямъ.
ЕЖЕНЕДѢЛЬНО.
Адресъ Редакціи—Духовная Консисторія.
Годъ IX-й. 27-го декабря 1909 г. № 51 и 52.

---

**Описание путешествия Преосвященнейшего Владимира, Епископа Белостокского, по обозрению церквей епархии за время с 21 сентября по 4 октября 1909 года // Гродненские епархиальные ведомости, 1909, № 51-52, 27 снежня. С. 646-658.*

***Гродненские епархиальные ведомости, 1909, № 19-20, 17 траўня.*

****Справаздача мастака-рэстаўратара Алеся Пушкіна “Аб правядзенні работ па расчыстцы сцен царквы Архангела Міхаіла в. Сынкавічы, Зэльвенскага раёна, Гродзенскай вобласці ад алейнай зафарбоўкі 1990 г.” ад 1 сакавіка 2014 г. Копія — у архіве аўтара.*

**Описаніе путешествія Преосвященнѣйшаго Владиміра, Епископа Бѣлостокскаго, по обозрѣнію церквей епархіи за время съ 21 сентября по 4 октября 1909 года.**

ГЛАВА IV.

Дешковичи-Слонимъ.

Въ 4 часа вечера Преосвященнѣйшій Владыка выѣхалъ изъ Озерницъ по направленію къ дерев. *Дешковичи*, приписанной приходомъ къ с. Сынковичи. Каменная церковь построена въ честь святаго мученика Аѳанасія, игум. Брестскаго. О. настоятель, священникъ Павелъ Макаревичъ привѣтствовалъ Владыку краткою рѣчью: „Преосвященнѣйшій Владыко, сказалъ о. Настоятель, Вы входите въ храмъ, бѣдный и недостаточно благолѣпный. Но эта бѣдность не должна смущать Архипастырскаго сердца Вашего: при бѣдности

**Апісанне падарожжа Прасвяшчэннейшага Уладзіміра, Епіскапа Беластоцкага, па агляду цэркваў епархіі за час з 21 верасня па 4 кастрычніка 1909 года**

ГЛАВА IV.

Дзешкавічы — Слонім

У 4 гадзіны вечара Праасвяшчэннейшы Уладыка выехаў з Азярніцы ў накірунку да вёскі Дзешкавічы, прыпісанай прыходам да сяла Сынковічы. Каменная царква пабудавана ў гонар святога мучаніка Афанасія, ігумена Брэсцкага. Айцец настаяцель, святар Павел Макарэвіч вітаў Уладыку кароткай прамовай: “Праасвяшчэннейшы Уладыка, сказаў айцец настаяцель, Вы ўваходзіце ў храм, бедны і недастаткова прыгожы. Але гэтая беднасць не павінна бянтэжыць Архіпастырскага сэрца Вашага: пры беднасці храма мясцовы народ багаты духоўна і багата ўпрыгожаны скарбамі веры і пабожнасці. Продкі мясцовых жыхароў не так даўно былі каталікамі, але з 1860 года ласкай Божай яны ўсе сталі праваслаўнымі і руплва

ахоўваюць праваслаўную веру і святыя звычаі царквы. Увайдзі, Уладыка, і памаліся разам з намі ў храме, прысвечаным памяці святога пакутніка за веру Афанасія Брэсцкага”.

Пасля сустрэчы Уладыкам быў адслужаны малебен святому Афанасію, ігумену Брэсцкаму. Пасля заканчэння малебна Уладыкам было сказана слова...

[...]

Вярстах у 4-х [4,2 км] ад Дзешкавіч праехалі невялікую вёску Рэўтовічы. Каля брамы, упрыгожанай кветкамі і зелянінай, сабраліся для сустрэчы Уладыкі жыхары вёскі. Дзядок-селянін вітаў Уладыку некалькімі словамі, у якім прасіў Уладыку прыняць і блаславіць хлеб-соль і пры гэтым наіўна пажадаў Праасвяшчэннейшаму Архіпастыру высокіх чыноў: “Просім Вас прыняць ад нас хлеб-соль і блаславіць. Жадаем Вашаму Праасвяшчэнству многіх гадоў жыцця і высокіх чыноў”. Уладыка падзякаваў прастадушнаму прамоўцу за вітанне, а наконт пажадання высокіх чыноў заўважыў, што чалавеку найперш патрэбнае душэўнае выратаванне, усё ж астатняе ёсць толькі другарадным малазначным прыдаткам у параўнанні з прызначэннем чалавека для вечнай будучыні. Уладыка некалькі хвілін размаўляў пасля з сялянамі пра мэты зямнога жыцця чалавека і аб прызначэнні яго да іншага жыцця — вечнага.

[...]

У вярсце [амаль 1067 метраў] ад Рэўтовічаў — паселішча Луконічы [Луконіца]. [...] У храме Уладыку сустрэлі: слонімскі благачынны айцец протаіерэй В[асіль] Палянскі, павятовы назіральнік, святар айцец Н. Аносаў і айцец настаяцель святар Іаан Альхоўскі. [...] Вярстах у 3-х [3,2 км] ад Луконіч [знаходзіцца] сяло Галынка. Ужо 9.30 вечара. Галынскі храм упрыгожаны і дэкараваны. [...] У 10 гадзін вечара прыехалі ў вёску Угрын [Угрынь] прыходу сяла Дзярэчына. [...] Да Дзярэчына заставалася толькі 4 вярсты [4,3 км]. У 10.30 Праасвяшчэннейшы Уладыка прыехаў у Дзярэчын, праехаў за дзень 65 вёрст [69 км] са шматлікімі прыпынкамі ў спадарожных вёсках і паселішчах. [...]

За 5 вёрст [5,3 км] да Сынковічаў праехалі маленькую вёсачку — Ягнеўцычы [Ягнешчыцы], а за 1,5 вярсты [каля 1600 метраў] Казлоўшчыцы [Казловічы]. Жыхары абедзьвюх вёсак гасцінна сустрэлі Уладыку хлебам-соллю.

У 7 гадзін вечара Праасвяшчэннейшы Уладыка прыехаў у паселішча Сынковічы, так вядомае сваім старажытным славутым храмам. Шкада, што нельга было разгледзець арыгінальнай знешняй архітэктуры храма з яго старажытнымі вежамі і байніцамі.

Айцец настаяцель святар Павел Макарэвіч вітаў Уладыку кароткай прамовай, на якой мы хацелі б спыніць асаблівую ўвагу чытача: “Праасвяшчэннейшы Уладыка, гаварыў айцец настаяцель. Ты ўваходзіш у адзін з самых старажытных храмаў не толькі ў нашай епархіі, але і ва ўсёй Расіі. На думку навукоўцаў, якія грунтуюцца на архітэктурных асаблівасцях храма, гэты храм адносіцца пабудовай да X ці XI стагоддзя. Прамых дакументаў на гэты конт няма. Але найлепшы дакумент — жывое паданне — неабвержна сведчыць, што Сынковіцкі храм з'яўляецца помнікам сапраўды глыбокай старажытнасці. На падставе спічастага выгляду храма і яго вежаў каталікі аспрэчваюць прыналежнасць яго ў мінулым праваслаўнай царкве і лічаць, што ён калісьці належаў ім. Але ўжо самі прыхаджане з'яўляюцца доказам таго, што храм гэты не быў каталіцкім, паколькі ўсе яны спрадвеку былі праваслаўнымі. Ва ўсім паселішчы толькі 4 жанчыны спавядаюць каталіцкую веру. 30 гадоў таму гэты храм быў на сажань [2,1 метра] закапаны ў зямлю, але намаганнямі пастыра, майго папярэдніка, і прыхаджан ён прыведзены ў найлепшы выгляд і ўпрыгожаны”.

Нельга было не падзякаваць лёсу, што пасля цяжкасцяў 12-дзённага падарожжа давялося суцешыць сябе наведваннем такога выключнага па сваёй старажытнасці храма. Як шкада, што нашы навукоўцы (археолагі, прафесары акадэмій і ўніверсітэтаў) так мала знаёмыя з царкоўна-археалагічнымі помнікамі заходняга края і ў прыватнасці нашай Гродзенскай губерні. А між тым якім удзячным матэрыялам для навуковых пошукаў мог быць хаця б гэты Сынковіцкі храм!..

Выдатнае ўражанне зрабіў у храме пры вечаровым асвятленні абноўлены іканастас малінавага колеру з іконамі старажытнай работы ў тры ярусы. Славутыя... іконы Маці Божай і Архістраціга Міхаіла, якія несумненна адносяцца да глыбокай старажытнасці.

Пасля заканчэння звычайнай цырымоніі сустрэчы Праасвяшчэнны адслужыў малебен Архістрацігу Міхаілу, пасля чаго звярнуўся да прыхаджан з кароткім словам.

[...]









Гэтыя здымкі былі зробленыя С. Забароўскім у пачатку XX стагоддзя. Захоўваюцца ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. Здымкі ўзятыя з сайта fototeka.ihs.uj.edu.pl.

Блаславіўшы прыхаджан, Уладыка ў суправаджэнні айца настаяцеля аглядаў старажытнасці храма — надпісы на сценах і пахавальню ў падзямеллі храма. Гэтыя славутасці настолькі цікавыя, што мы лічым неабходным спыніцца на іх больш падрабязна. Пачнем з надпісаў. Вось два лацінскія надпісы, прысвечаныя памяці літоўскага князя Альгерда (у святым хрышчэнні Аляксандра), так вядомага руплівасцю аб праваслаўнай веры і клопатамі аб пабудове і ўмацаванні праваслаўных храмаў. Адзін зроблены на заходняй сцяне, направа ад уваходу, верагодна, кімсьці з незадаволеных палітыкай князя, абвінавачвае яго ў



прыніжэнні дзяржавы: “A[nno] D[omini] 1347 Eheu Olgerdus! Illos occidendo, hos accusando, civitatem labefecisti”! (“О, Альгерд, адных забіваючы, а іншых абвінавачваючы, ты прынізіў дзяржаву” год 1347 ад Раства Хрыстова)”. Іншы [надпіс], на паўдёвым баку, славіць яго розум і воінскія доблесцi: “Olgerdus domi mitoeque clarus. Ille validus ense, fretus amicitia, ingenio, opibus An. 1352 (г. зн. Альгерд славіцца дома і ў вайне. Моцна дзейнічае ён мячом, заручаны сяброўствам, розумам, багаццем. Год 1352).

На паўднёвым баку паўднёва-ўсходняй калоны надпіс пра Унію: “Proh Deum! Unia Roma profecta. Anno D[omini] 1596” (г. зн. “За Бога! Унія з Рыма накіроўваецца Год 1596 ад Раства Хрыстова”). Відавочна тут трэба разумець Брэсцкую Унію 1596 г. [...]

“Vive memor laethi!”. “Жыві, памятаючы аб смерці!” — лаканічна заклікае кароткі надпіс на паўднёвай сцяне.

На той жа сцяне, крыху воддаль, грэцкі надпіс словамі апостала Іаана запрашае асцярожна адносіцца да прапаведнікаў рэлігійных вучэнняў: “Умілаваныя! Не ўсялякаму духу верце, але выпрабоўвайце духаў, ці ад Бога яны. Праваслаўны Госпад Ісус Хрыстос з духам тваім. Тысяча дзвесце трынаццатага года).

“Benedicit mihi… ambula” Anno 1304”. “Блаславіў мяне... у шлях”, — чытаем яшчэ адзін у пэўнай ступені загадкавы надпіс відавочна прыватнага характару.

А вось яшчэ больш старажытны грэцкі надпіс, які адносіцца да 1141 г., змешчаны на ўсходнім баку паўднёва-усходняй калоны. У другім радку па-руску тлумачыцца значэнне гэтых слоў: “у год 1141”, далей заўважныя


*Здымак Алеся Пушкіна.*

літары і тытлы [надрадковыя знакі], падобныя на грэцкія і славянскія, якія немагчыма прачытаць. Пад імі славянскімі літарамі напісана: “Па тваю ласку звяртаемся Багародзіца Дзева” і іншае. Пад гэтымі радкамі намалявана нешта накшталт чалавекападобных фігураў, а вакол іх раскіданыя нейкія


*Здымак Алеся Пушкіна.*

кароткія дробныя літары.

На паўднёвым баку паўночна-усходняй калоны грэцкі надпіс, з паслання апостала Паўла: “глядзіце, браты, каб хто не захапіў вас філасофіяй і пустым спакушэннем па паданні чалавечым, па стыхіях свету, а не па Хрысце”.

Далей яшчэ два запісы — лацінскімі літарамі San luteron і рускі — “Выратуй Госпадзе людзей тваіх”.

А вось яўрэйскі надпіс, які ў перакладзе азначае: “Я веру, што святы, святы, святы Усемагутны Гасподзь! Як у яго ўсё выдатна!”.

З правага боку ад уваходу на заходняй сцяне знаходзіцца замураваная пахавальня, у якой змяшчаюцца сем трунаў памешчыка Есмана [Есьмана]. Над імі на сцяне пліта з чорнага мармуру з польскім надпісам: Tu lezy Adam Esman z Brydida swai zóna. Dzie dziczac swych nadziadow cnote nieskazona y Stworcy y oyczyznie dochowali wiare. Przechodniu. To czytaioc pdaczay ofiare za te cnotliwe



*Здымак Яна Булгака, зроблены ў міжваенны час. Узяты з сайта fototeka.ihs.uj.edu.pl*

dusze. Wraz z onych Synami co ten comien grobowy zleli swemi Izami. Adam pogżzebiony roku 1800 29 febr. Brydida pogrzebiona roku 1804 d. 10 mar.

[Надпіс прыведзены відавочна з памылкамі, таму дакладна яго перакласці немагчыма. Ён паведамляе, што там пахаваны 29 лютага 1800 года Адам Есман, а 10 сакавіка 1804 г. яго жонка Брыгіда (не Брыдзіда)].

У паўднёвай частцы храма каля паўднёва-усходняй калоны знаходзіцца пячора з трыма трунамі невядомых памерлых. Над пячорай на калоне лацінскі падпіс “Multis ille bonis flebilis ocidit A. D. 1368”. [Жаласны да многіх добрых... Год 1368 ад Раства Хрыстова”]

Разам з Праасвяшчэнным Архіпастырам спускаемся ў цёмнае пячорнае падзямелле. У трунах, якія дастаткова яшчэ захаваліся, ляжаць тры паўразбураныя шкілеты. На дне трунаў заўважныя высахлыя цёмнабурыя рэшткі вантроб. У нагах на адным шкілеце ацалела частка бота... Народная гаворка кажа, што тут пахаваны нейкія знатныя паны. Але сіла смяротнага разбурэння пераўтварыла ўсё ў прах і тленне. Ад зямной велічы спачылых засталіся адныя толькі жалкія косткі. А быў жа час, калі гэтыя косткі былі апранутыя ў пышнае, выдатнае цела — і ў гэтых жалкіх астанках кроў кіпела і хвалявалася, сэрца стукала і білася, і яны адушэўлены былі розумам і воляю... Памятай аб смерці, дарагі чытач!.. Не забывай пра мітусню чалавечага жыцця!.. Працуеш, мітусішся, збіраеш... А праб’е прызначаны табе час — і ты таксама пераўтворышся ў прах. Таксама рассыплюцца твае засохлыя косткі. Ты жывеш падобна дрэвам. Перажываем спачатку вясну, пасля дажджы, непагадзь і зімовую сцюжу, сумны лістапад і хто ведае, ці дажывем да новай вясны ці быць можа ўдар сякерай падаб’е цябе пад самы корань?.. Праасвяшчэнны Уладыка паправіў у адной з трунаў бязвокі чэрап, які адбіўся ад шкілета, і памаліўшыся, выйшаў з падзямелля. Супакой Госпадзі душы спачылых рабоў тваіх!..

Па выхадзе з царквы, Уладыка наведаў кватэру айца настаяцеля і праз некалькі хвілінаў выехаў з Сынковіч у напрамку да горада Слоніма.

(заканчэнне ў наступным нумары)

**“Слонімскі край” можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/**

# Пра здарэнне з пасольствам Свяшчэннай Рымскай імперыі каля Слоніма ў 1699 годзе

У жніўні 1699 года з Масковіі вярталася пасольства Свяшчэннай Рымскай імперыі. На ўсход яно ехала праз Прусію, а ў ВКЛ праз Коўна, Вільню, Мінск, Барысаў, а падчас вяртання вырашыла змяніць маршрут. Сакратаром гэтай місіі, адпраўленай імператарам Леапольдам I, быў нямецкі дыпламат Ёган Георг Корб (1672 — 1741). Ён рабіў падрабязныя падарожныя нататкі, якія пасля выдаў асобнай кнігай на латыні.* На 153-й старонцы Корб напісаў пра здарэнне, якое адбылося на дарозе са Слоніма ў Ружаны, не даязджаючы Міжэвічаў:

“Праехаўшы качму Якімавічы, прыбылі мы ў Слонім. Тут жывуць дамініканцы і езуіты. Пасля абеду мы сустрэлі на дарозе рой маладых пчол, якія вылецелі на дарогу, пакусалі да смерці каня і многіх людзей у твар і рукі. Мы выратаваліся ад іх з дапамогай агню, кожны, як мага хутчэй уцякаў пешшу з гэтага месца. Ужо позна ўначы даехалі мы да карчмы Хмяльніцы. Каля заезнага двара цячэ рака Руда”.




25. Per Grätschma Jakimlowiz civitatem Slonim (4) attigimus; hic Dominicani, & Jesuitæ manent. Absoluto prandio abituris obstabat examen apum, quod in viam publicam erumpens modò equum occiderat, & multos homines in facie, manibúsque læserat; igne arcebatur, & citatissimo quivis pede locum transcurrit. Crescente jam nocte ad Grätschma Schmelnize venimus. (3) Diversorium hoc aqua, Ruida compellata, præterfluit.
U
26. Ma-



На наступны дзень дыпламаты дабраліся да Ружанаў, дзе іх гасцінна прынялі Сапегі. З кароткай згадкі Корба каштоўнай з’яўляецца інфармацыя пра корчмы на Слонімшчыне, пра знаходжанне ў Слоніме езуітаў. Дагэтуль лічылася, што яны з’явіліся ў нашым горадзе толькі ў пачатку XVIII стагоддзя. Цяпер жа бачым, што іх прысутнасць ужо ў 1699 годзе была прыкметная.

● ***Генадзь Гурскі***

**Diarium itineris in Moscoviam Perillustris ac Magnifici Domini Ignatii Christophori Nobilis Domini De Guarient, & Rall Sacri Romani Imperii, & Regni Hungariae Equitis, Sacrae Caesareae Majestatis consiliarii Aulico-Belici ab augustissimo invistissimo Romanorum imperatore Leopoldo I ad serenissimum ac potentissimum tzarum magnum Moscoviae ducem Petrum Alexiowicium anno 1698 ablegati extaordinarii descriptum a Joanne Georgio Korb. — Viennæ: Typis Leopoldi Voigt, 1700.*



DIARIUM
ITINERIS IN MOSCOVIAM
*Perillustris ac Magnifici Domini*
IGNATII CHRISTOPHORI
*NOBILIS DOMINI*
DE GUARIENT, & RALL,
Sacri Romani Imperii, & Regni Hungariæ
Equitis, Sacræ Cæsareæ Majestatis Consiliarii
Aulico-Bellici
A B
*Augustissimo, & Invictissimo Romanorum*
IMPERATORE
LEOPOLDO I.
A D
*Serenissimum, ac Potentissimum Tzarum,*
*& Magnum Moscoviæ Ducem*
PETRUM
ALEXIOWICIUM
*Anno M DCXCVIII.*
ABLEGATI EXTRAORDINARII
*Descriptum*
A JOANNE GEORGIO KORB, p. t.
Secretario Ablegationis Cæsareæ.
Accessit Reditus Suæ Tzareæ Majestatis à Provinciis Europæis ad proprios limites periculosæ Rebellionis Streliziorum, & latæ in eosdem sententiæ cum subsecuta sanguinea Executione, nec non præcipuarum Moscoviæ rerum compendiosa, & accurata descriptio &c.
*Cum Privilegio Sacræ Cæsareæ Majestatis.*
VIENNÆ AUSTRIÆ, Typis Leopoldi Voigt, Universit. Typog.




**“Слонімскі край”** — краязнаўчае электроннае выданне.
Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года
Рэдактар нумару ***Сяргей Чыгрын***.

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.